


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

1 снежня 2000 года
№ 48 (293)
Цана ў розніцу 102 рублі

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Шчучынцы займаюць пасады

**АСТРАВЕЦ.** Колькі год таму намеснік старшыні Астравецкага райспажыўтаварыства **Станіслаў Мікша** перабраўся ў Шчучын на пасаду старшыні. Затым намеснік пракурора з Астраўца **Генадзь Дыско** стаў пракурорам у Шчучыне, а памочніка пракурора Шчучынскай райпракуратуры **Валерыя Працкайлу** прызначылі на пасаду пракурора ў Астраўцы.

На мінулым тыдні ў Астравецкай райаграпрамтэхніцы з'явіўся новы дырэктар. Ім стаў **Юрый Салдаценка**, які да гэтага часу працаваў галоўным механікам у дарожнай арганізацыі Шчучына. Цяпер ужо былы дырэктар райаграпрамтэхнікі **Іван Масальскі** працуе намеснікам старшыні калгаса "Савецкая Беларусь".

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### 300 год школе ў Барунах

**АШМЯНЫ.** У Барунскай сярэдняй школе прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 300-годдзю навучальнай установы – адной з найстарэйшых у Беларусі.

Да 1740 года гэта была трохгадовая свецкая навучальная ўстанова. Пасля праграму навучання істотна змянілі, і там рыхтавалі ўжо кандыдатаў у святары. У 1780 годзе навучальная ўстанова зноў стала свецкай. У XIX стагоддзі школа была вядомая сваімі выпускнікамі, якія пакінулі след у культуры, навуцы, грамадскім жыцці Беларусі, Літвы і Польшчы. Цяпер у ёй вучацца 186 чалавек.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Ізноў даўгі па зарплаце

**СМАРГОНЬ.** З'явілася запазычанасць па зарплаце ў горадзе і раёне. На пачатак лістапада яна складала 61,3 мільёна рублёў, хаця ў кастрычніку даўгоў не было.

16% ад агульнай колькасці рабочых не атрымалі зарплату за кастрычнік поўнасцю.

**Павел МАКЛЮК.**

### Баслык падменіць Баслыка

**МЯДЗЕЛ.** Дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Ігар Баслык** захавае сваю пасаду. Нагадаем, што ён працуе дырэктарам птушкафабрыкі "Зара камунізма". Пасля абрання ў "палатку" яму прызначылі новага намесніка. Ім стаў **Валерый Баслык**, які да гэтага працаваў у сістэме забеспячэння птушкапрама.

Новы намеснік падменіць дырэктара, калі той будзе займацца заканатворчасцю. Да гэтага выконваў абавязкі дырэктара галоўны ветэрынарны ўрач птушкафабрыкі **Юрый Антонік**.

Валерый Баслык заявіў, што яны з дырэктарам не сваякі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Дом культуры разбяруць

**МАЛАДЗЕЧНА. З недабудаванага Дома культуры, што ў Выверах, у вёсцы вырашылі пабудаваць падсобныя памяшканні для мясцовага калгаса.**

Напачатку 90-х запланавалі тут узвесці раённы Дом культуры. Мясцовыя ўспамінаюць, што на "мерапрыемства" грошы вобласць давала. За пару год узвялі такую будыніну, якія большасць вяскоўцаў бачыла хіба толькі па тэлевізары, калі там пра Маскву расказвалі.

Калі заставалася накрыць дах, фінансавы паток раптам перакрылі. Так дом і стаяў, пакуль не пачаў разбурацца.

Ля будынка любілі гуляць дзеці, таму, каб не дапусціць ахвяр, калгас накіраваў просьбу ў аблвыканком дазволіць разбурыць Палац. На тым і сышліся.

Перабудову пачалі ўлетку. Чырвоная цэгла, з якой выраблены "унутранасці" Палаца, аказалася нізкай якасці, таму яна ўся выбракуецца. У справу пойдуць белая цэгла і бетонныя перакрыцці. Частку гэтых будматэрыялаў узяў калгас на свае патрэбы, з астатніх будуюцца тыя памяшканні, пра якія ішла гаворка вышэй.

Выверскаму Дому культуры знайшлося прымяненне. Ці не выйсце гэта для яго маладзечанскага "сабрата"?

**Юрый КАРПІЦКІ.**


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Так выглядаў выверскі Дом культуры 27 лістапада.

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## На якое пытанне вы не ведаеце адказу?



**Дзмітрый Ількевіч, навучэнец палітэхнікума:**
— Не ведаю, што на самой справе адбылося на "Курску".



**Мікалай Акулёнак, начальнік адміністрацыйна-гаспадарчага аддзела:**
— Як далей жыць?



**Яўген Гарбацэвіч, навучэнец палітэхнікума:**
— Ці ёсць жыццё на Марсе?



**Генадзь Карповіч, механік:**
— Калі я пачну жыць лепш?



**Марына Ермаковіч, прадавец:**
— Ці існуе тагасветнае жыццё?



**Максім Гулевіч, студэнт юрфака міжнароднага інстытута эканомікі і права:**
— Чаго не ведаю, на тое не адкажу. Хутчэй за ўсё, гэта пытанне з надта моцнай навуковай галіны.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый Карпіцкі.**

## Анонс

### Асобы тысячагоддзя

Сёння пачаў свой адлік апошні месяц тысячагоддзя. Таму запрашаем чытачоў "РГ" паспяшацца і даслаць свае варыянты адказаў на прапанаваную міні-анкету. Сярод яе ўдзельнікаў у першым месяцы новага тысячагоддзя мы разыграем прыз. Такім чынам, на ваш погляд:

**«Падзея года» ў рэгіёне**
**«Падзея стагоддзя» ў рэгіёне**
**«Падзея тысячагоддзя» ў рэгіёне**
**«Чалавек года» ў рэгіёне**
**«Чалавек стагоддзя» ў рэгіёне**
**«Чалавек тысячагоддзя» ў рэгіёне**



### Адмена электрычак



1 снежня
адпраўленнем 10-58; 13-41
прыбыццём 11-47; 13-49

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 2 снежня**

**Мінск**
-2 – -1°С (уначы)
1 – 2°С (удзень)



**Вільня**
0°С (уначы)
7°С (удзень)



**Нядзеля, 3 снежня**

**Мінск**
-7 – -1°С (уначы)
0 – 4°С (удзень)



**Вільня**
-1°С (уначы)
3°С (удзень)



# У адзін дзень

**ВІЛЕЙКА. У пачатку снежня пачынаюцца раённыя школьныя алімпіяды. Дакладней, пройдуць. У адзін дзень па ўсіх прадметах. Трэцяга снежня. Да таго ж, у адрозненне ад нядаўніх часоў (калі Вілейка была горадам абласнога падпарадкавання і не ўваходзіла ў склад раёна), цяпер прадстаўляць школьную паралель (аднаўзроставыя класы), будзе ўсяго па адным вучні. На думку многіх педагогаў і вучняў, некаторых кіраўнікоў школ, такім чынам абмяжоўваецца права выбару для здольных школьнікаў. Яшчэ колькі год таму здатныя да навукі дзеці маглі ўдзельнічаць і ўдзельнічалі ў гарадскіх алімпіядах па некалькіх прадметах. Што пра гэта думаюць кіраўнікі раённага аддзела адукацыі?**

**Яўген Кулінковіч**, загадчык раённага аддзела адукацыі:

— Моцныя вучні найчасцей моцныя па нейкім напрамку: калі ведае фізіку, то добра спраўляецца з матэматыкай, астраноміяй. Калі беларускую мову, то добра і з рускай мовай, замежнай. Такі вучань не ведае, наколькі распыльваць свае сілы і па якім прадмеце рыхтавацца. А падругое, калі ён зойме першае месца па некалькі прадметах на раённай алімпіядзе, потым устае пытанне: куды пайсці яму на абласную алімпіяду. Таму мы палічылі, што будзе больш разумна і эканомна з боку расходу дзіцячых сіл, каб ён рыхтаваўся па тым прадмеце, які яму будзе больш патрэбны ў жыцці – пры паступленні ў вышэйшую навучальную ўстанову, пры выбары прафесіі. Тым больш, што і ў вобласці, і на рэспубліцы алімпіяды праводзяцца ў адзін час. Не трэба дзяцей перагружаць.

Цяпер, да таго ж, мы ставім умовай, што на абласную алімпіяду можна трапіць толькі пры выкананні не менш 85 працэнтаў заданняў.

Настаўнікі ж часта любяць, каб іх вучні займалі не першае месца, а другое. Тады настаўніку пашана, прэмія. А з першым месцам трэба рыхтавацца да абласной алімпіяды, рэспубліканскай, дзе большая адказнасць.

**Ларыса Петрыкевіч**, намеснік загадчыка раа:

— Так, у нас былі выпадкі, калі вучні перамагалі па двух, трох прадметах. Але калі яны выступалі на вобласці, то атрымлівалася там не вельмі удала. З пункту логікі вучняў, выступаць па некалькіх прадметах — правільна. І дрэнны той вучань, які не імкнецца да гэтага. Але мы павінны паглядзець з пункту гледжання педагога і зберагчы сілы дзіцяці.

У нас ёсць добрыя настаўнікі па матэматыцы, якія добра рыхтуюць вучняў, але мы лічым дасягненнем, калі наш удзельнік на абласной алімпіядзе па матэматыцы рашыць 50 працэнтаў задання. Здалі мы пазіцыі па беларускай мове, па рускай так і не набралі ўзроўню. "Зоркі" у нас толькі па хіміі і гісторыі. Цяжка рыхтавацца па сямівасьмі ўроках, займацца ў вучэбна-вытворчым камбінаце і яшчэ рыхтавацца да алімпіяды па некалькіх прадметах.

А для таго, каб спрабаваць свае сілы, для здольных вучняў ёсць іншыя способы. Па матэматыцы праводзіцца міжнародны конкурс "Кенгуру", рэспубліканскі па фізіцы "Сініца", "Вавёрка" па хіміі, "Марсік" па астраноміі... Ёсць рэспубліканскі вочна—завочны конкурс па матэматыцы, фізіцы і інфарматыцы. Найбольш удзельнікаў гэтых конкурсаў у нас у гімназіі. Усе матэрыялы, што з"яўляюцца па конкурсах, мы аддаем у школы.

**Карэспандэнт:**

— Пазіцыя, калі алімпіяды праводзяцца ў адзін дзень і ўдзельнічае ад школьных паралеляў усяго па адным вучні, знайшла падтрымку ў кіраўнікоў школ?

**Я.К.:**

— Не так падтрымку, як разуменне.

**Л.П.:**

— Але агульнага разумення не будзе. Я хачу сказаць, што калі мы праводзілі асобна гарадскія алімпіяды, то ад паралеляў было і па тры, і па пяць вучняў. Нават усіх жадаючых бралі. Ставілі задачу выбраць мацнейшых. Цяпер у нас 23 сярэднія школы, 13 базавых. З некаторых вясковых школ і па адным вучні з паралелі вылучыць цяжка. Усё адно гарадскія перамогуць. Праблема ёсць і ў гэтым. Да таго ж, мы і так работы правяраем да позняга вечара, а калі вучняў будзе больш, то гаварыць пра аб'ектыўнасць і якасць праверкі нельга. Такія выдаткі атрымліваюцца нават у вобласці. За тры дні філолагі праводзяць чатыры конкурсы: дыктант, вуснае выказванне, лінгвістычны і водгук пішуць, а пасля за ноч трэба ўсё праверыць. А потым пачынаюцца апеляцыі. І цэлы дзень яшчэ ідзе на разбор апеляцый. Так што няхай вучань выбірае прадмет, які для яго больш важны і займаецца настойліва.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ **ВЫСТАЎКІ**

# Кірмаш у вучылішчы

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу ў ПТВ-87 адкрылася выстаўка-кірмаш. Навучэнцы ПТВ прадавалі там свае вырабы: ад бутэрбродаў (іх рабілі будучыя бармены) да электронных прыбораў (за іх якасць адказвалі радыёэлектронікі). Такі кірмаш у горадзе адбыўся ўпершыню. Яго прымеркавалі да бацькоўскага сходу. Ініцыятарам стаў старшы майстар Мікалай Цыган:**

— Сёння мы хацелі паказаць бацькам, чаму навучыліся іх дзеці, чым яны тут займаюцца. Думаю, бацькі засталіся задаволеныя. А ў далейшым зробім выстаўкі—кірмашы пастаяннымі. Некаторыя нескладаныя тавары – малаткі, прыкладам, ці больш складаныя – варштаты – мы можам прапанаваць нашым гарадскім арганізацыям. Яшчэ ў планах адкрыццё магазіна на тэрыторыі вучылішча. Акрамя таго, мы можам рабіць дробны рамонт бытавой тэхнікі. Таму будзем зарабляць грошы. І вучні крыху паправяць сваё матэрыяльнае становішча.

Дадае дырэктар ПТВ—87 **Пётр Місюль**:

— Нас прымушае праводзіць такія выстаўкі наша беднасць. У інтэрнаце, які справіў 40-гадовы юбілей, не праводзіўся капітальны рамонт. Там хутка павывальваюцца вокны. Мы рыхтуем камерцыйных агентаў. Няхай яны практыкуюцца, шукаюць кліентаў.



**Будучым барменам работы хапала.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Вучні нейкія грошы па выніках кірмашу зарабілі. Не застаўся ў баку ад гэтага і Пётр Місюль. Ён купіў некаторыя дэталі для таго, каб зрабіць дробны рамонт у сябе дома.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Удзельнічаў у кірмашы і дырэктар ПТВ-87 Пётр Місюль.**



**У параўнанні з іншымі, радыётэхнікі сумавалі.**

■ **ЭКАЛОГІЯ**

# Эколагаў стала больш



Фота з архіва СШ №5.

**Юныя эколагі Юля Новаш, Саша Захарчыц, Сяргей Ладзята і Дзіма Бажко ў музеі.**

**МАЛАДЗЕЧНА. 77 вучняў аб'яднала экалагічная арганізацыя "Віта", створаная ў СШ №5. На мэце яна мае экалагічную асвету вучняў і далучэнне іх да актыўнай практычнай дзейнасці па ахове прыроды. Гэта трэцяе экалагічнае згуртаванне дзяцей горада (САШМ "Лесавічок" і СШ №12 "Зялёныя"). Дырэктар СШ Яўген Макарэвіч падкрэслівае, што з 1 лістапада школе нададзены экалагічны статус.**

Сярод мерапрыемстваў, якія правялі юныя эколагі, – фотавернісаж "Браты нашы меншыя", выстаўка "Прырода і фантазія", рэйд на раку Уша з мэтай агляду стану ракі. Аб'яднанне "Віта" будзе ўдзельнічаць у конкурсе экалагічных вучэбна—даследчых праектаў "Зямля – наш дом". Аб'ектам даследавання стане рака Уша, вада якой на сённяшні дзень выклікае неспакой эколагаў: яна забруджваецца рэшткамі нафтапрадуктаў, сюды зліваюцца каналізацыйныя сцёкі. А гэта можа выклікаць павелічэнне колькасці хворых на гепатыт маладзечанцаў.

Кіруе арганізацыяй **Наталля Коўза**, ёй актыўна дапамагаюць кіраўнік школьнага лясніцтва **Жанна Карповіч**, класныя кіраўнікі атрадаў **Тамара Страх, Ірына Ганіна, Ала Каспяровіч**.

Кіраўнік райінспекцыі па ахове прыроды **Генрых Януілевіч** таксама ведае юных эколагаў па добрай працы ў школьным лясніцтве. У якасці заахвочвання райінспекцыя па ахове прыроды арганізавала паездку ў Мінск, дзе вучні наведалі заалагічны музей БДУ, выстаўку экзатычных жывёл у Траецкім прадмесці і музей экалогіі і прыроды Беларусі. Даведаліся пра існаванне арганізацыі і мясцовыя жыхары, якія звяртаюцца па дапамогу, распавядаюць пра канкрэтныя выпадкі забруджвання навакольнага асяроддзя ў горадзе.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Адкрываецца «вячорка»

СМАРГОНЬ. 1 студзеня у горадзе адкрываецца вячэрняя агульнаадукацыйная школа. Цяпер упраўленне адукацыі камплектуе школу настаўнікамі, шукае памяшканне, вучэбна—наглядныя дапаможнікі. Фінансавы аддзел райвыканкома закладзе ліміты ў будучы бюджэт на ўтрыманне вячэрняй школы.

**Павел МАКЛЮК.**

## Лепш лячыцца за грошы

**МЯДЗЕЛ. У стаматалагічным кабінеце амбулаторыі к. п. Нарач увялі платныя паслугі.**

Паралельна засталося і бясплатнае лячэнне. У гэтым выпадку матэрыял для пломбаў будзе звычайны. 70—80 працэнтаў кліентаў жадаюць ставіць пломбы за грошы, але з лепшага матэрыялу – фотапалімерызацыйнага, які служыць год 15. Робяць гэта на новым абсталяванні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Інвалідаў памыюць бясплатна

**ВАЛОЖЫН. Напярэдадні Міжнароднага дня інвалідаў (3 снежня) у раёне праходзяць урачыстасці пад дэвізам "Мы з вамі".**

У раённай паліклініцы інвалідам раздалі вітаміны, школьнікі збіралі кнігі, цацкі, рабілі падзелкі для дзяцей-інвалідаў.

А заўтра іх будуць бясплат на мыць у валожынскай лазні.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Хрустальная ваза для падпалкоўніка

**ВАЛОЖЫН. У мінулыя выхадныя ў Барысаве прайшоў абласны конкурс сярод выканаўцаў аўтарскай песні.**

Валожын прадстаўляў падпалкоўнік, што служыць у мясцовай вайсковай часці, **Сяргей Макей**. У выніку ён атрымаў за свае песні "Хай гучыць наша мова" і "Я сумую" хрустальную вазу і дыплом, дзе напісана: "За прапаганду патрыятычнай песні".

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ **ДНІ**



**1 снежня – Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу.**
**3 снежня – Міжнародны дзень інвалідаў**
**Дзень юрыста**
**6 снежня – 200 год з дня нараджэння І. Ходзькі** (1800–1881), геадэзіста і тапографа.

■ ЭКАНОМІКА

# «Будсервіс» працуе па ўсім рэгіёне

**У сярэдзіне 90–х некалі моцнае прадпрыемства "Будсервіс" (былое ПМК–87, больш за сорак год існавання, працавала ў свой час да 700 чалавек; вакол Нарачы, прыкладам, забудавалі амаль усё менавіта яны) на дно пайшло рашуча і ўпэўнена. Сярод многіх іншых, але назіраць за гэтым было дастаткова непрыемна. У 1998 годзе тут заставаліся, бадай, толькі тыя, хто лепшую работу сабе не знайшоў.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Работнікі «Будсервіса» ля вядомага сваім знешнім выглядам будынка прахадной. Злева направа: старшыня праўлення ААТ "Будсервіс" Галіна Корбут, галоўны механік Вячаслаў Раткевіч, прараб Марына Каробчыц (усё сваё свядомае жыццё працуе ў "Будсервісе"), вадзіцель (працаваў непрацяглы тэрмін), намеснік дырэктара Павел Гаськоў, дырэктар Соф'я Харлан, начальнік вытворча–тэхнічнага аддзела Галіна Кірычэнка (з някепскай работы не «пабаялася» прыйсці ў "Будсервіс" невыпадкова - любіць яна песенныя радкі: "Я не жалею ни о чем!"), галоўны бухгалтар Лілія Івашкевіч, начальнік падсобнай вытворчасці Ніна Крукава (працуе 33 гады; на жаль, пасля эканамічнага падзення тут захавалася мала што – сталярка, шкло, цэх помнікаў).**

Прычым, нішто не абяцала адраджэння: "Будсервіс" – не птушка Фенікс. Лічылася, што прадпрыемства будзе ліквідаванае, таму на працэс поўнага раскрадання маёмасці адказныя асобы і ўвагу асаблівую не звярталі (цяперашні намеснік дырэктара "Будсервіса" **Павел Гаськоў** сказаў бы, напэўна, пра такую пазіцыю: ні павартаваць, ні скрасці). Доўжылася так тры гады, аднак раптам сюды пачалі вяртацца былыя работнікі, якія яшчэ колькі год таму перайшлі адсюль на больш трывалыя заработкі. Пачала гэты працэс былы галоўны інжынер прадпрыемства **Соф'я Харлан**, якая вярнулася сюды дырэктарам і "забрала" з сабой ізноў жа былых калег.

– Пытанне стаяла "рубам", – гаворыць С. Харлан. – Рабочыя мусілі выбіраць: альбо зарплату атрымаць, альбо новую кельму купіць. Выбіралі звычайна другое. Таму касцяк застаўся. А цяпер маю магчымасць выбраць работнікаў. Вось сёння прыходзілі два нашыя былыя маляры.

Хаця існаваў, я б сказаў, поўны недавер да прадпрыемства. Даходзіла да таго, што пасля ўсіх падлікаў і вызначэння аб'ёмаў дагавор з імі адмаўляліся падпісваць: "А, гэта той самы "Будсервіс"...

Ды і з работнікамі да кур'ёзаў даходзіла. Адзін дзякуе, што далі работу ў Маладзечне, не трэба ў Мінск матляцца; другі звальняецца і ў прыёмнай паспявае спалохаць навічкоў. Менавіта ж людзі і вызначаюць твар арганізацыі.

Са "старой гвардыі" адзначаюць тут цесляра **Міхаіла Сасіновіча**, і брыгаду **Чаславы Зюбы**, братоў **Франца і Казіміра Жукоўскіх** (маладзечанцы могуць ацаніць іхнюю работу – прыступкі на лесвіцах Дома гандлю), якія вярнуліся з Чысці. Прараба **Наталлю Сасіновіч (Біндэй)**, наогул, называюць правай рукой дырэктара. Усіх, натуральна, не пералічыць.

– Наша задача – захаваць іх, – лічыць дырэктар "Будсервіса". – Яны мяне і падтрымліваюць.

Асобным радком варта зазначыць, што ў баку ад праблемаў "Будсервіса" не засталіся раённыя ўлады. Менавіта пры іхняй падтрымцы і стала магчымым другое нараджэнне "Будсервіса". Каб пачаць працаваць, неабходна было разлічыцца з даўгамі, выплаціць запазычанасці па падатках. На суму даўгоў былі выпушчаныя акцыі, якія і пачалі ў ліку першых выкупляць раённы і абласны выканаўчыя камітэты.

– Мы сталі першымі на Маладзечаншчыне, хто паспрабаваў такім чынам спісаць даўгі. У нас іх было на 7 з паловай мільёнаў рублёў, – адзначае Павел Гаськоў. Першы аб'ект у райвыканкоме нам параілі зрабіць так, каб было відаць, што "Будсервіс" тут працаваў.

Галоўнае, што ў "Будсервіса" аб'екты гэтыя цяпер ёсць. Прадпрыемства ў стане выканаць многія работы. Геаграфія прысутнасці аддзелачнікаў шырокая – будынак згаданага райвыканкома ў Маладзечне, дзіцячы садок на "Лясных", шмат работы на Нарачы, дзе давялося вытрымаць жорсткую канкурэнцыю, ёсць заказы з Мінска і Вілейкі. З самога Маладзечна, на здзіўленне, амаль няма. Магчыма, з–за элементарнага няведання пра "рэнесанс" аддзелачнікаў.

– У Ашмяны нашыя работнікі трапілі, можна сказаць, выпадкова, – успамінае Соф'я Харлан. – Але ж неўзабаве і дагавор заключылі.

Дарэчы, у лістападзе «Будсервіс» з добрай ацэнкай якасці (прараб **Вера Высоцкая**) здаў жылы дом у Ашмянах - без высялення жыхароў маладзечанскія будаўнікі ўмацавалі сцены. Рамантавалі тут сярэднюю школу, будынак прадпрыемства «Белкава».

– Заказчыкі нас "вучаць", – дадае Павел Гаськоў, – Бо рабочыя тонка адчуваюць слабінку: навошта, маўляў, гэта старое шпакляваць? Альбо наадварот раяць кліенту, як лепей зрабіць.

Былы афіцэр–падводнік і цяперашні намеснік дырэктара "Будсервіса" сённяшні стан прадпрыемства ацэньвае па–падводніцку:

– Я б сказаў так: заведзеныя пластыры, ідзе адпампоўванне вады, судна становіцца на роўны кіль.

Для "эканоміі месца" аўтар не пісаў поўную назву прадпрыемства, а яна такая: ААТ "Будсервіс-Маладзечна". Пры чарговай перарэгістрацыі высветлілася, што нехта ў вобласці паспеў падаць дакументы на прадпрыемства з назвай "Будсервіс" раней. Давялося П. Гаськову шукаць варыянты. Для чытачоў «РГ» ён прапанаваў варыянт прыказкі «Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж» – «Не рэж сам, аддай рэзаць падначаленаму».

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Дырэктар «Будсервіса» Соф'я Харлан.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Намеснік дырэктара «Будсервіса» Павел Гаськоў.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 23 лістапада | 30 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1093,00 руб. | 1114,00 руб. |
| Нямецкая марка | 472,89 руб. | 490,21 руб. |
| Літ | 273,17 руб. | 278,42 руб. |
| Расійскі рубель | 39,24 руб. | 40,00 руб. |
| Злоты | 239,33 руб. | 245,81 руб. |
| ЕЎРА | 924,90 руб. | 958,76 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1130 – 1160 руб. | 1160 – 1190 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 22.11 | 29.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1580 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5975 | 5100 |
| Сасіскі, 1 кг | 1680 | 1690 |
| Селядзец, 1 кг | 995 | 990 |
| Рыс, 1 кг | 390 | 390 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 550 | 550 |
| Алей, 1 л | 650 | 650 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 640 | 640 |
| Маянэз, 250 г | 230 | 280 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1100 | 1200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 370 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 350 | 360 |
| Лімоны, 1 кг | 1040 | 1000 |
| Апельсіны, 1 кг | 680 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 140 | 140 |
| Капуста, 1 кг | 80 | 80 |
| Хурма, 1 кг | 1000 | 900 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1000 |
| Бульба, вялікае вядро | 500 | 600 |
| Морква, 1 кг | 120 | 100 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 350 |

■ ЭКАНОМІКА

## У Гродзенскай вобласці на адно сельскагаспадарчае прадпрыемства прыпадае ў сярэднім 120 мільёнаў рублёў даўгоў

**ГРОДНА. У новы 2001 год сельгаспрадпрыемствы Гродзенскай вобласці ўвойдуць са старымі даўгамі.**

Паводле вынікаў 2000 года чакаецца атрыманне імі прыбытку ў аб'ёме 24 мільярдаў рублёў. Між тым, на рахунках гаспадарак ёсць толькі каля 700 мільёнаў рублёў свабодных грошай; на 1 лістапада крэдыторская запазычанасць аграпрамысловага комплексу вобласці склала 36 мільярдаў рублёў. У сярэднім на адну гаспадарку прыпадае 120 мільёнаў рублёў даўгоў.

Чакаецца, што са стратамі завершаць год 33 сельгаспрадпрыемствы. Складанае фінансавае становішча не дазваляе павялічыць і своечасова выплачваць работнікам заработную плату, сярэдні памер якой па галіне ўдвая менш, чым на прамысловых прадпрыемствах; у кастрычніку ён склаў 32 тысячы рублёў.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Валютныя вадзіцелі аўтафургонаў

АСТРАВЕЦ. Супрацоўнікі пагранпаста "Катлоўка" выявілі ў літоўцаў, якія кіравалі аўтафургонамі, схаваныя і не ўнесеныя ў дэкларацыю долары ЗША. Адзін з літоўцаў развітаўся з 3700, а другі з 1400. Грошы канфіскаваныя ў даход дзяржавы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Буйны крадзеж ядахімікатаў

**АШМЯНЫ. У раённы аддзел унутраных спраў паступіла паведамленне ад старшыні калгаса імя Крупскай, які заявіў, што са склада ў вёсцы Шчапанавічы ўчынены крадзеж ядахімікатаў. Выкрадзена 185 літраў ядахімікатаў пяці найменняў на суму больш за 2 мільёны 782 тысячы рублёў. Склад ахоўваецца вартаўніком і абсталяваны аўтаномнай ахоўнай сігналізацыяй, якая на момант агляду знаходзілася ў абясточаным стане.**

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 87, частка 3 Крымінальнага кодэкса. Падчас расследавання аператыўна ўстаноўленыя падазроныя — дзве службовыя асобы, якія маюць дачыненне да работы склада.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

